# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 39 (1689) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 25 ВЕРАСНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.



*Мінск. Старое і новае. Фота Яўгена Казюлі.*

## ЗНАЁМСТВА З БЕЛАРУССЮ

# РАЗВІТАННЕ

Чым больш набліжаўся канец нашай пабыўкі, якую і так трэба было скараціць на адзін дзень з увагі на праблему з білетамі на цягнік, я ўсё мацней пераконваўся ў тым, што Беларусь пачынаецца з Мінска. Так, як сэрца Польшчы б'ецца ў Варшаве. І хаця Брэст таксама горад немалады і сваімі пачаткамі сягае 1017 года ды памятае часы Яраслава Мудрага, ці Гродна, у якім ужо ў XI стагоддзі на Замкавай гары былі пабудаваны ўмацаванні, або Магілёў, дзе археалагічныя раскопы сведчаць аб тым, што славянская культура існавала там на многія стагоддзі да часоў Кіеўскай Русі, то аднак Мінск усё такі застаецца Мінскам — цэнтрам, які з'яўляецца маторам пульсу культурнага і гаспадарчага жыцця цэлай рэспублікі.

Сталіца Беларусі некалькі гадоў таму назад увайшла ў дзесятае стагоддзе свайго існавання. Гэта шмат. Праўда, цяжка супастаўляць яе са старажытнымі: Вавілонам, Афінамі ці Рымам, але параўнаўча гэта горад стары. Аднак стары горад яна нічуць не прыпамінае сваім выглядам. Хаця і пражыў Мінск 1100 дзён фашысцкай акупацыі, то не быў разбураны.

Шукаю стары горад. Блукаю вуліцамі і вулачкамі. Не засталося замнога. Праіснаваў ён хутчэй ва ўспамінах асобных яго жыхароў, а ў тым ліку і маіх знаёмых.

Як шкада, што не заўсёды можаш усё сказаць аб сваіх знаёмых і блізкіх, аб іх гасціннасці, шчырых і сардэчных размовах, якія неаднойчы цягнуліся ад змяркання да заранкі і клаліся аздараўляючым бальзамам на збалелую беларускую душу. Не верыш проста, ці сваёй добразычлівай удзячнасцю, перадаючы размову, не піхнеш чалавека ў бязвыхадную сцяжыну. Божа ж ты мой, Божа! Калі маеш прывыкаць да таго, каб гаварыць тое, чаго ты не чуў, дык лепш застацца нямым.

Хаджу па Мінску, развітваючыся з Беларуссю, і родзіцца ўяўленне, што ўсё старое спачатку мадэрнізавалі, а цяпер прабуюць архаізаваць, каб хаця крышачку вярнуць культуры былых пакаленняў. А, па шчырасці, адна толькі Няміга, закаваная ў жалезабетонныя трубы, можа сказаць праўду аб лёсе і гісторыі горада, а заадно і краіны. Жывая памяць закавана ў нямыя аковы. Тая Няміга, якая памятае паход князя Ігара Святаслававіча:

На Нямізе снапы сцелюцца
Галовамі,
А малоцяць жа стальнымі
Іх цапамі.

На таку жыццё кладзецца
Неспадзейна,
І душу ад цела веюць
Безнадзейна.

Берагі ў крыві Нямігі
Па калені;
Не дабро па іх пасеяў
Сейбіт жменяй.

Паводле даведніка „Путешествуйте по Белоруссии", выдадзенага „Полымем" у 1980 годзе, бюро падарожжаў і экскурсій прадбачана так званая экскурсія „Старинное кольцо Минска". Свой пачатак бярэ яна з цэнтра горада, ад старадаўняга замчышча, дзе засталіся толькі абаронныя насыпы і фундаменты царквы з XII стагоддзя. Чытаю: „Здесь же туристы познакомятся с основными архитектурными памятниками старого Минска — зданиями Екатерининской церкви, мужского и женского бернардинских монастырей. Недалеко от д. Дружбы можно осмотреть кладбище славянского племени дреговичей X—XI в.в."

Хаджу вуліцамі Мінска і неяк жаласна скуголіць сэрца ды заціскаецца душа ў кулак. Гляджу на прыгожыя муры былага касцёла Семеона і Елены. Уяўленнем пераношу сябе ў часы, калі білі тут званы і гралі арганы. Міжвольна ападаюць павекі, прыкрываючы зрэнкі ад сучаснага. Лягчэй уяўляць, не перашкаджае гоман бессэнсоўнай бегатні. Усё ж такі нельга адурманіць рэчаіснасць. Крык і смех выходзячых з былога касцёла, дзе сёння памяшчаецца рэспубліканскі Дом кіно, ніколькі не напамінаюць вячэрняй меладыйнасці званоў і працяглых акордаў арганаў. Прыпамінаецца тэкст Віктара Шніпа „Хто яны, „нефармалы"?", надрукаваны ў красавіцкім нумары „Беларусі", дзе аўтар, перадаючы словы Зянона Пазняка падчас

(Працяг на стар. 3)

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Васіль Хомчапка

# ДВА СЯРГЕЙКІ

Сяргейка спаў, калі да яго прыйшла Аленка. Ён прачнуўся, расплюшчыў адно вока і ўбачыў сяброўку.

— А я яшчэ спаць хачу, — сказаў ён, але з ложка вылез.

Настрой у Сяргейкі быў капрызлівы, нічога не хацелася рабіць. Мабыць, таму што не выспаўся.

Ходзіць ён па пакоі, а адно вока заплюшчана.

— А чаму ў цябе адно вока не глядзіць? — здзівілася Аленка.

— Няхай паспіць. Як будзе трэба, расплюшчу.

Аленка прыйшла, каб пагуляць з Сяргейкам. Таму і прапанавала:

— Давай будзем дом будаваць.

— Будуй, — адказаў Сяргейка.

Аленка дастала са скрынкі кубікі, села на падлозе і пачала складваць іх адзін на адзін — дом будаваць. Збудавала дом высокі, з вокнамі і дзвярамі. А Сяргейку нічога не хацелася рабіць, ён яшчэ як след не прачнуўся, хоць ужо і другое вока глядзела. І дом яму не спадабаўся. Ён узяў мяч і кінуў яго ў Аленчын домік. Домік і рассыпаўся.

— Навошта разбурыў? — пакрыўдзілася Аленка.

— Гэта я незнарок, — зманіў Сяргейка.

Яшчэ вышэйшы дом склала Аленка. Але і яго разбурыў Сяргейка, сказаў, што было землетрасенне.

— Тады сам будуй. — Аленка села ў крэсла, паклала рукі на калені і сядзела моўчкі.

Сяргейку гэтая цішыня зусім не спадабалася. Ён сказаў:

(Працяг на стар. 10)



Пераможцы конкурсу беларускай песні для школьнікаў у 1988 годзе ў катэгорыі дуэтаў Іра Копа і Аня Богус з Беластока. Дзяўчаткі працуюць пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы.



Удзельніцы сёлетняга конкурсу беларускай песні для школьнікаў з Орлі. Фота Я. Чэрнякевіч.

Ніл Гілевіч

# ЗАЙЧЫК — УЦЯКАЙЧЫК

У кусціку лазовым —
Пад ненадзейным сховам —
Малыя зайчаняткі
Стуліўшыся сядзяць.
Яны чакаюць маці
І, нібы хлапчаняткі —
Касурацць вачаняткі —
Ва ўсе бакі глядзяць.

Даўно ўжо касавокіх
Няспершны голад мучыць:
Ах, каб паесці!..
І стала ясна ім:
Карміць іх маці болей
Не будзе ўжо ніколі:
Пара скакаць у поле —
Шукаць яду самім.

Як толькі ўцемрыў вечар,
Туманам задымеўшы,
Пабеглі зайчаняты
У розныя бакі.
— А я адзін баюся! —
Заплакаў самы меншы. —
Я ў полі пападуся
На воўчыя клыкі!..

Да палавіны ночы
Дрыжаў малы ад страху.
Але хіба галодны
Уцерпіш без яды?
Ён вылез асцярожна
З-пад ліцвянога даху.
Прыслухаўся да гукаў,
Зірнуў туды-сюды.

Нідзе няма нікога,
Паспакайнеў малышык,
Адбегся і зашыўся
У росную траву.
Скубнуў лісток губамі —
Зусім нядрэнна выйшла!
Лісток салодкі, смачны.
„Эгэ! Цяпер жыву!“

Падсілкаваўся трошкі
Ён заячай капустай,
І ноч не гэткай доўгай
Здалася ўжо яму.
Прабегаў да світання
І зноў прысеў пад кустам.
Ах, як нядобра ўсё-ткі
Малому аднаму!..

Там і застаў апоўдні
Яго Сяргейкаў бацька,
Вяртаючыся з поля
Ад трактара дамоў.
Спалохаўся малышык:
„Куды мне ратавацца?“
І кінуўся наўцёкі,
Як толькі, бедны, мог.

— Гэй, пачакай, дурненькі!
Злаўлю ўсё роўна, зайчык...
Дагнаў, схапіў за вушы
У лазняку густым:
— Спужаўся касавокі?
Ты — зайчык-уцякайчык,
Але не ўцёк: не ўмееш
Яшчэ скакаць зусім!..

Пагладзіў даланёю
На шэрай спінцы шэрстку
І, пасадзіўшы ў шапку,

(Працяг на стар. 10)



Уладзімір Дубоўка

# ПРА СПАДЧЫНУ ДАЛЁКІХ ПРОДКАЎ

Працуючы, робячы што-небудзь, мы, бывае, забываемся на самыя старадаўнія спосабы паляпшэння працы, вынайдзеныя яшчэ калі-калі нашымі продкамі. Асабліва гэта адчуваецца там, дзе няма магутнай тэхнікі, а работы — невычэрпнае мора.

Але знаходзяцца людзі, памяць якіх трымае ў сваёй глыбіні такія спосабы і, у выпадку патрэбы, выклікае іх на сонечны дзень. Сустракаў я за сваё жыццё нямала гэткіх здольных, мудрых людзей. Работу, на якую большасць траціла багата энергіі, выяўлялася, можна зрабіць пры зусім малой затраце сіл. Калі хто пачынае рабіць гэтую самую работу больш лёгкім спосабам, думаеш: „Ой! Праўда! А як жа, чаму ж гэта мы самі не здагадаліся?“ У такіх выпадках трэба ў першую чаргу запытацца ў сваёй памяці, у свайго розуму: „Як лягчэй, хутчэй і лепш зрабіць гэтую работу?“ — і толькі пасля такога роздуму пачынаць яе.

Асабліва мне запомніўся, добрым словам не раз яго згадваў і згадваю, адзін сталяр, уралец Сяргей Аляксандравіч Муратаў. Мне пашэнціла працаваць з ім не малы час, хоць я для яго быў напарнік несамавіты: ён — выдатны майстар-сталяр, а я — сталяр звычайны.

Вазьму пару самых простых прыкладаў з супольнай працы.

Наша брыгада канчала новы дом. Хто насцілаў падлогу, хто столь, хто навешваў вокны і дзверы. Работа ішла добрым ладам, без жаднае затрымкі. У свой час прывезлі нам абед. Паабедалі. Прыходзіць прараб, звяртаецца да ўсіх:

— Браточкі! Маю вельмі тэрміновае, нечаканае заданне. Трэба перанесці лістоўнічнае бярвенне ад штабеля, дзе яно ляжыць, да вашага дома. Работа гэтая для возчыкаў з коньмі, але сёння іх няма і не будзе. Яны ўсе заняты далёка адсюль. За пераноску я заплачу ў падвойным размеры. Насіць іх можаце як хто задумае: хоць па два чалавекі, хоць па дзесяць адразу да аднаго берваня ляпіцеся, абы толькі работа была зроблена.

Цесляры, сталяры, паабедаўшы, — адразу да штабеля, каб, скончыўшы гэту нечарговую ра-

(Працяг на стар. 10)

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ



## МАЕ КАХАННЕ, ДЗЕ ТЫ?

*Словы А. Ставера*
*Музыка І. Лучанка*

Маё каханне, дзе ты, дзе жывеш!
Мой спадарожнік радасці і болю!
Няўжо мяне ты ўсё-такі абмінеш?
Няўжо цябе я не знайду ніколі?
Дзе ж цябе шукаць мне,
Дзе сустрэць, знайсці цябе мне!
Не трэба мне шматструннай
славы, не!
Не трэба мне пахвал лісліваых
хоры!
Жыла-была б ты толькі ля мяне, —
Я мог бы зрушыць, як гавораць,
горы.
Дзе ж цябе шукаць мне,
Дзе сустрэць, знайсці цябе мне!
Цябе няма... У буру-бездарож
Іду адзін я па зямных абшарах...
І ў горкі час я долі ўдзячны ўсё ж,
Што ты жывеш хоць у прыгожых
марах...
Дзе ж цябе шукаць мне,
Дзе сустрэць, знайсці цябе мне!




# НІЎКА



— А мой жа ўсё жыццё спіну гнуў перад начальствам, цяпер распраміцца не можа.

### НЯМА МЕСЦА

— Чаму на вашым малацэ, дзядзька, ніколі няма смятаны?

— Бо заўсёды наліваю так поўныя банкі, што на смятану няма месца.

### ЗАМЯНІЛІСЯ

Адзін купец паехаў у дарогу. Жонка папрасіла да сябе найлепшага яго сябра. У пэўным моманце звоніць тэлефон. Прыняўшы тэлефон, гаспадыня вяртаецца і кажа:

— Муж нечакана вярнуўся з падарожжа. Сябра ўсхапіўся ўцякаць, але яна кажа:

— Не хвалюйся! Сёння муж не прыдзе начаваць дахаты. Званіў, што знаходзіцца ў цябе і гуляе з табой у шахматы.

### НЕ ЗРАЧЭМСЯ НІКОЛІ!

Дзеўкі і маладзіцы сабраліся і лен труць у кампаніі. Кастрыца скача на ўсе бакі і гаворка цікавая плыве, а Янка прышоў і байкі пляце.

— Ох, цяпер тэхніка пайшла. Калісьці людзі пехатой хадзілі, а цяпер аўтобусам, цягніком і таксоўкамі ездзяць, а нават самалётам лётаюць. Калісь сошкаю аралі — цяпер трактарам аруць, нават машынаю куранят выседжваюць, а хутка такую машыну прыдумаюць, што і людзей рабіць будуць.

Тут то дзеўкі як паднялі гвалт, як пачалі крычаць: — Няхай нас б'юць, няхай нас рэжуць на кавалкі, але старога спосабу мы не зрачэмся ніколі.



Есць за вала — робіць за камара.

*

У няўмекі — рукі калекі.

З народнага

### МУСІЦЬ БЫЦЬ РАЎНАВАГА

Ішоў Бог з чалавекам і размаўлялі аб лёсе роду людскога. Напаткалі пры сялібе прыгожую дзяўчыну, ды такую прыгожую, што глядзець не наглядзецца.

— Каму ж такая кветка пападзе? Кажуць, што і характар у яе такі самы прыгожы. Каго ж яна выбярэ сабе за мужа? — запытаў чалавек у Бога.

— А вось той, — паказаў Бог пальцам, — глядзі той, што топчацца пры карчме. Ён будзе яе мужам, — адказаў Бог.

— Госпадзі! — ускрыкнуў чалавек, — дык гэта ж брыдота, гуляка, бязрадны і біздарны!

— У прыродзе мусіць быць раўнавага, — павучальна сказаў Бог. — З іншаю жанчынаю ён прападзе.

(Запісаў М. Х.)



— Ты так баішся першага пацалунку?

— Не — вынікаў.



— Мой варыць абед...

— А мой мые бялізну...

### ДОБРАЯ РЭПУТАЦЫЯ

— Як вас называюць?

— Як хто хоча: жонка — распусьнікам, бацька — гультаём, суседзі — злодзеем, толькі адзін адвакат хваліць.

### У СУСЕДА

— Ну, Максім, бачу, ты пачаў жыць на шырокую ногу, калі купіў радыё.

— Якое там радыё, цешча прыехала і парадкі наводзіць. Ужо другі дзень дыхнуць не дае.

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

— Чаму наеўшыся селядцоў гэтак піць хочацца?

— Бач, селядзец — марская жывёліна, ён і ў жывадзе не можа абысціся без вады.

### КАЛІ ПАЖЭНІМСЯ

Яна: — Калі пажэнімся, буду я дзяліць з табою ўсе твае турботы, клопаты, няшчасці...

Ён: — Даражэнькая, я не маю аніякіх турбот!

Яна: — Я ж гавару, як мы пажэнімся.

### САРОМЛЮСЯ

— Грамадзянка, здыміце вопратку, бо мушу вас агледзіць.

— Калі я вельмі саромлюся паказацца ў кашулі, — кажа жанчына.

— То здыміце і кашулю.

### ЗЛОДЗЕЙ

Ходзіць злодзей па рынку ў Беластоку, падпіраючыся белай палкай, разглядаецца, шукае ахвяраў і знаходзіць.

Убачыў жанчыну, акружаную пакупнікамі і спекулянтамі, неабазнаную дакладна з цэнамі. Падышоў да яе, узяў у рукі сталовы набор, запытаў пра цану, а пасля паклаў гэты тавар і адначасова хуценька і незаўважальна кінуў другі сталовы набор сабе ў торбачку. Хвілінку пастаяў і адышоў. Жанчына не заўважыла, што ён ужо яе абакраў. Але заўважылі людзі і запыталі яе, ці ён плаціў за тавар.

— Не, не плаціў!

Усхваляваная жанчына, але не магла кінуць разложаны тавар і бегчы за ім. Злодзей, аднак, вярнуўся праз некалькі хвілін, ужо з пустымі рукамі, і зноў планаваў штосьці-небудзь украсці. І зноў бярэ ў рукі тавар і пытае пра цану, а жанчына хватае яго за кляпы і настойліва крычыць: „Аддай набор альбо грошы!" Злодзея такая неспадзеўка ашарашыла. Але ён не аддае грошай, а пачынае страшыць савецкую жанчыну, што ён яе правучыць за гандаль. Ён яе страшыць, а яна яго трымае і крычыць, каб міліцыю пазвалі. І тады злодзей стаў прасіцца: „Пусці, я табе грошы магу ахвяраваць, толькі пусці!" Але яна не пусціла і ён не змог выкруціцца. Прыйшла міліцыя, пасадзіла злодзея ў каталашку, а назаўтра яго судзілі.

(мх)




*

Заўсёды суседкі
Сварацца за дзеткі.